Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 21 340.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-85-49

# НАВІНЫ



Пятніца, 30 красавіка 1998 г. № 44 Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Расіянаў дэпартавалі



Чарнобыльскі шлях, які наладзіла 25 красавіка ў Мінску беларуская апазіцыя, прайшоў мірна, але ўсё адно завяршыўся арыштамі. Было схоплена больш за 20 грамадзянаў Беларусі і група расійскіх студэнтаў. Гасцей з Масквы трымалі пад вартаю цэлыя суткі, а потым пад канвоем дэпартавалі ў Расію.

*(Падрабязнасці на стар.2)*

## Марш пратэсту і салідарнасці

**Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя збіраецца заўтра правесці ў Мінску сваё першамайскае шэсце.**

Сацыял-дэмакраты запрашаюць усіх людзей дэмакратычных перакананняў прыняць удзел у маршы пратэсту і салідарнасці, які пачнецца ў 10:00 ад сквера Янкі Купалы. Калона пойдзе да плошчы Незалежнасці, але ў афіцыйным мітынгу, які ладзіцца там, удзельнічаць не будзе.

**Б.П.**

## Някляеў стаў пісьменнікам нумар адзін

**На XII з'ездзе Саюза пісьменнікаў Беларусі, які адбыўся на мінулым тыдні, старшынём Рады абраны паэт Уладзімір Някляеў.**

Такім чынам, ён змяніў на гэтай пасадзе Васіля Зуёнка, які ўзначальваў Саюз з 1990 года. За яго прагаласавалі 234 дэлегаты з'езда, супраць —74. Усе астатнія кандыдаты на пасаду кіраўніка пісьменніцкай арганізацыі знялі свае кандыдатуры. У.Някляеў родам са Смаргоні, яму 52 гады, і ён мае рэпутацыю вельмі дзелавога і актыўнага чалавека. Сапраўды, папрацаваць давядзецца шмат: сёння ў Саюзе пісьменнікаў 498 членаў, а, акрамя таго, У.Някляеў з'яўляецца яшчэ галоўным рэдактарам адразу двух выданняў — часопіса «Крыніца» і тыднёвіка «Літаратура і мастацтва».

Членамі Рады — калегіяльнага органа Саюза пісьменнікаў — з 59 кандыдатаў з'езд абраў 51 літаратара, з іх будзе сфармаваны сакратарыят і прэзідыум. У працы з'езда не ўдзельнічалі сусветна вядомыя пісьменнікі Васіль Быкаў, Святлана Алексіевіч, Рыгор Барадулін.

У сваім выступленні намеснік кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Іван Пашкевіч папракнуў: чаму, маўляў, літаратары не звярнуліся да яго па дапамогу — ён бы даў грошай на правядзенне з'езда. «Малайчына Зуёнак, што не пайшоў прасіць грошай!» — гаварылі ў кулуарах з'езда. Новы кіраўнік творчай арганізацыі падаеміў, што мае намер з дапамогай дзяржавы разгарнуць выдавецкую дзейнасць пры Саюзе пісьменнікаў, засяродзіўшы ўвагу на выданні беларускай мастацкай кнігі, — і такім чынам зарабляць сродкі для Саюза.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

## Авіякатастрофа

*Беларуская авіяцыя ў крытычнай сітуацыі*

Міністэрства статыстыкі паведамляе, што ў 1998 годзе рэзка знізіліся аб'ёмы грузаабароту паветранага транспарту краіны. Так, у сакавіку 1998 г. грузаабарот складаў толькі 7,1% да леташняга паказчыка. Знізілася і колькасць пасажыраў беларускіх авіяліній — на 21,1% у параўнанні з 1997 г. Колькасць стратных прадпрыемстваў у галіне дасягнула 78,6%. Толькі за два першыя месяцы года страты склалі 124,9 мільярда рублёў — больш за 3 мільёны долараў.

*БелаПАН*

## Бомба ў хаце

**У горадзе Асіповічы адзін былы вайсковец не пабаяўся трымаць у сваёй кватэры два асколачна-фугасныя снарады.**

Акрамя таго, міліцыя знайшла ў яго 5 трацілавых шашак, больш за 2.000 патронаў, 58 запалаў для гранат. Яшчэ 13 снарадаў ён схаваў на тэрыторыі ваеннай часці, дзе раней служыў. Узбуджаная крымінальная справа.

**Іван ЗАСАДА**

# Барыс замест Івана

*Апарат СНД узначаліў Барыс Беразоўскі*

**Учора на маскоўскім саміце СНД Івана Каратчэню знялі з пасады выканаўчага сакратара. Па прапанове ўкраінскага прэзідэнта, шэфам апарату СНД быў прызначаны ўплывовы расійскі бізнесмен Барыс Беразоўскі. У свой час ён праславіўся пры ўрэгуляванні чачэнскага канфлікту. Цяпер Беразоўскаму даверылі рэарганізацыю СНД.**

Лёс Івана Каратчэні фактычна быў вызначаны яшчэ пасля правальнага саміту кіраўнікоў садружнасці ў Кішынёве. Пасля той няўдалай сустрэчы лідэры краінаў СНД не збіраліся цэлых 6 месяцаў, двойчы саміты адкладваліся. Крызіс завёў садружнасць у тупік, абвастрыўшы праблемы паміж краінамі. Нават Мінску нагадалі, што неабходна заплаціць Расіі даўгі за энерганосьбіты. Самай цяжкай праблемай застаецца стварэнне адзінай эканамічнай прасторы ў СНД, бо нават дзве саюзныя суседкі да гэтага часу не дасягнулі «сінхранізацыі» рэформаў.



*Б.Беразоўскі.*

Напярэдадні маскоўскага саміту віцэ-прэм'ер Іван Рыбкін па даручэнні расійскага прэзідэнта аб'ехаў краіны садружнасці. Менавіта ён назваў выканаўчы сакратарыят на чале з І.Каратчэнем «бюракратычным», з якім «трэба расправіцца». Кандыдатам на пасаду «галоўнага кіраўніка» па справах СНД ён назваў Барыса Беразоўскага. Відаць, ужо тады гэтая кандыдатура была ўзгодненая, бо ў час саміту Беразоўскага падтрымалі ўсе кіраўнікі краінаў садружнасці. Прэзідэнт Ельцын, каментуючы новае прызначэнне, зазначыў, што для многіх яно «нечаканае», але папрасіў усіх «праглынуць» гэтую пілюлю для лячэння садружнасці. Пакуль штаб-кватэра СНД застаецца на ранейшым месцы, а гэта азначае, што Б.Беразоўскі павінен прыехаць у Мінск. Аляксандр Рыгоравіч называў Барыса Абрамавіча «жулікам», невядома якія словы ён знойдзе цяпер.

Як нам паведамілі ў прэсслужбе штаб-кватэры СНД, Івана Каратчэню ўзнагародзілі расійскім ордэнам Дружбы. Прэзідэнт Лукашэнка сказаў, што «заўсёды прыслухоўваўся» да думкі І.Каратчэні, і пабяцаў працаўладкаваць яго і нават «з павышэннем».

Пасаду старшыні выканкама СНД зойме Іван Рыбкін. Па прапанове прэзідэнта Узбекістана Іслама Карымава Барыс Ельцын абраны старшынём Савета кіраўнікоў СНД да 2000 года.

Вялікі выкрывальнік «белавежскай змовы» прэзідэнт Лукашэнка тым часам займаўся праблемамі саюза Расіі і Беларусі. Перад самітам ён меў пратакольную сустрэчу з Барысам Ельцыным. А ўчора прэзідэнт Лукашэнка горача павіншаваў вялікім букетам новага прэм'ера Расіі Сяргея Кірыенку, які быў прызначаны кіраўніком выканкама саюза «двух». Лукашэнка зноў запэўніў, што будзе «очень порядочно» адносіцца да расійскіх інтарэсаў.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Гераічны прэзідэнт

**У сераду, не паспеў яшчэ пачацца саміт кіраўнікоў дзяржаваў СНД у Маскве, а беларускі прэзідэнт ужо стаў героем дня. Праўда, толькі на 15 хвілінаў і толькі на тэлеканале НТВ.**

Адчувалася, што перад падарожжам у Расію над Аляксандрам Лукашэнкам добра папрацавалі стылісты і іміджмейкеры. Прэзідэнт выглядаў рэспектабельна і зусім не пагрозліва: міла жартаваў і спакойна адказваў на «правакацыйныя» пытанні вядучай Святланы Сарокінай.

Аляксандр Рыгоравіч распавёў расіянам, што ў яго, аказваецца, «дастаткова мазгоў, каб кіраваць разумна дзяржавай без кулака і палкі». Маўляў, Беларусь знаходзіцца ў цэнтры Еўропы, у атачэнні дэмакратычных краінаў, і таму дыктатарскія заходы ў Беларусі проста не пройдуць: «Цябе хутка на месца паставяць», — паскардзіўся на свой лёс Лукашэнка.

Запыталіся ў Рыгоравіча і аб яго ных прэтэнзіях на пасаду кіраўніка аб'яднанай расійска-беларускай дзяржавы. Беларускі прэзідэнт выказаўся на гэты конт досыць шчыра: «Вы што, хочаце стварыць адзіную дзяржаву, дзе будуць адзіныя органы кіравання, адзін бюджэт, і забараніць беларусам удзельнічаць у якіхсьці там выбарах? Гэта проста смешна. Па меншай меры гэта недэмакратычна».

З тэлеінтэрв'ю Лукашэнкі расіяне таксама даведаліся, што Беларусь — гэта дэмакратычная квітнеючая краіна са стабільнай валютай. А ўсе праблемы ідуць толькі ад апазіцыі. Зрэшты, ніякай пагрозы для Аляксандра Рыгоравіча гэтыя людзі не прадстаўляюць. Па яго ных словах, «беларуская апазіцыя — гэта чатырыста чалавек, якія сёння гвалтам у Мінску крычаць «Далоў Лукашэнку!», «Забіць Лукашэнку!..» І толькі?

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**




## Свята

**Паводле календара ААН, штогод 3 траўня адзначаецца Сусветны дзень свабоды прэсы. Віншуем усіх нашых чытачоў з гэтым святам.**

## Семінар

***Пад эгідай назіральнай групы АБСЕ 29 красавіка ў Мінску пачаўся двухдзённы семінар на тэму «Свабодныя і справядлівыя выбары». Кіраўнік групы АБСЕ ў Беларусі Ханс Георг Вік, адкрываючы семінар уступнай прамовай, адзначыў, што на ім будуць абмяркоўвацца пытанні правядзення дэмакратычных выбараў, роля палітычных партыяў і сродкаў масавай інфармацыі ў гэтым працэсе.***

## Паралелі

***Аб'ём інвестыцыяў у польскую эканоміку летась склаў 5,7 млрд. долараў, або 150 долараў на аднаго жыхара. Сярэдняя заработная плата ў Польшчы складае 500 долараў; дапамога жанчыне на працягу 3-х гадоў пасля нараджэння дзіцяці — 300 долараў у месяц.***

***Прамыя інвестыцыі ў беларускую эканоміку склалі летась 56 мільёнаў долараў — усяго па пяць долараў на аднаго жыхара Беларусі. Сярэдняя зарплата не перавысіла 80 долараў, дапамога па доглядзе за дзіцем сёння складае 15 долараў.***

## Беспрацоўе

***Колькасць афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных у Магілёўскай вобласці складае 15,6 тысячы чалавек. Гэта амаль на тысячу больш, чым было на пачатку года.***

## Жыццё і смерць

***З пачатку года ў Магілёўскай вобласці памерлі 3 тыс.192 чалавекі, кожны пяты з іх быў актыўнага (працаздольнага) ўзросту. Страты насельніцтва набываюць катастрафічны характар — за гэты перыяд у вобласці нарадзілася ўсяго 1.881 дзіця. На 1.445 шлюбаў прыпадае 1.101 развод.***

## Таджыкістан будзе пятым

**У аўторак у Маскве сустракаліся кіраўнікі дзяржаваў — удзельніцаў Мытнага саюза (Беларусі, Казахстана, Кыргызстана і Расіі).**

Акрамя іншага, абмяркоўваліся пытанні, якія датычаць прыёму ў саюз яшчэ адной краіны — Таджыкістана. Кіраўнікі «чацвёркі» выказалі згоду на ўступленне Таджыкістана ў Мытны саюз. Такім чынам, «саюз чатырох» ператворыцца ў «саюз пяці» — пасля таго, як Таджыкістан падправіць сваё мытнае заканадаўства, а на гэта спатрэбіцца некалькі месяцаў.

*БелаПАН*

# Чарнобыльскі шлях завяршыўся арыштамі

Прыкладна сем тысячаў чалавек сабралася на сталічнай плошчы Я.Коласа, каб прыняць удзел у афіцыйна дазволенай жалобнай маніфестацыі. У 17 гадзінаў апазіцыйная калона рушыла па праспекце ў бок цэнтра горада. Акрамя традыцыйных нацыянальных сцягоў з жалобнымі стужкамі і транспарантаў, дэманстранты неслі пудзіла радыяцыйнага мутанта, аздобленага вядомай цытатай: «Я свой народ за цивилизованным миром не поведу...» Як і летась, у першых шэрагах калоны крочылі вядомыя апазіцыянеры: Шарэцкі, Карпенка, Захаранка, Баршчэўскі, Хадыка і іншыя. Не замінаючы руху транспарту, дэманстранты дайшлі да Опернага тэатра, дзе адбыўся мітынг. Змест выступаў зводзіўся да стандартных словаў аб тым, што рэжым Лукашэнкі скарачае да мінімуму ўсе чарнобыльскія праграмы і ігнаруе элементарныя патрэбы ліквідатараў ды хворых з забруджанай зоны. Даслаў сваю гнеўную заяву і лідэр БНФ Зянон Пазьняк. У пэўным сэнсе цікавым быў выступ спікера ВС Сямёна Шарэцкага, які азнаёміў публіку з плодам уласнай літаратурнай творчасці. Аказваецца, Шарэцкі не толькі займаецца палітыкай, але і піша вершы. Не выключана, што паэтычны талент Сямёна Георгіевіча будзе ў будучыні ацэнены нашчадкамі больш дастойна, чым яго палітычны.



Прыняўшы рэзалюцыю мітынга, народ пачаў паступова разыходзіцца. Ніхто не збіраўся ісці штурмаваць расійскую амбасаду ці прарывацца да прэзідэнцкай адміністрацыі, таму сцягнутыя ў гэты дзень у цэнтр Мінска вялікія сілы АМОНа і спецназа засталіся без працы. Але прэзідэнцкія баевікі ў цывільным знайшлі сабе занятак. Гэтыя асобы вялі да самай штаб-кватэры БНФ вялікую групу маскоўскіх студэнтаў з Антыфашысцкага маладзёжнага дзеяння (АМД), якая спецыяльна прыехала з расійскай сталіцы, каб прыняць удзел у Чарнобыльскім шляху. Усе падыходы да фронтаўскага офіса былі блакаваныя машынамі. Праз гадзіну, калі група масквічоў выйшла са штабкватэры, адразу з некалькіх аўтамабіляў з зацемненымі шыбамі да іх кінуліся людзі ў цывільным. Было схоплена каля 20 чалавек, якіх завезлі ў Савецкі райаддзел міліцыі. Там на лідэра АМД Пятра Казначэева і на 14 ягоных сяброў склалі пратаколы «аб знявазе гонару прэзідэнта» (падчас маніфестацыі масквічы неслі транспарант з надпісам «Лукашэнка—капут»). З міліцэйскага пастарунка расійскіх антыфашыстаў, сярод якіх былі непаўналетнія, даставілі ў спецпрыёмнік.



Адміністрацыя ізалятара адмовіла расійскаму консулу Уладзіміру Каралькову ў сустрэчы з затрыманымі. Пасольства Расіі накіравала ноту пратэсту ў беларускае МЗС. У адміністрацыю Лукашэнкі пачалі паступаць пратэсты ад дэпутатаў Дзярждумы. Нашыя ўлады зразумелі, што справа можа перарасці ў канфлікт з Масквой, таму вырашылі даць задні ход — вечарам у нядзелю ўсіх расіянаў дэпартавалі з Беларусі. Пад узмоцненым канвоем іх даставілі на мінскі вакзал перад самым адыходам цягніка, міліцэйскі нарад суправаджаў усю групу аж да Смаленска.

Як высветлілася пазней, пяці расіянам, якія неслі «крамольны» плакат, спачатку «шылі» крымінальную справу. Потым, калі сітуацыя пачала набываць скандальны характар, усіх расіянаў вырашылі судзіць за нібыта ўчыненыя імі адміністратыўныя правапарушэнні. Судзілі непасрэдна ў сценах спецпрыёмніка. Большасці масквічоў вынеслі «папярэджанні», а некаторым прысудзілі штрафы ў 200 тысячаў рублёў.

25 красавіка міліцыя арыштавала таксама больш за 20 маладых беларусаў, якіх выпусцілі з пастарунках толькі на наступны дзень. Па словах затрыманых, некаторыя з іх у міліцыі былі збітыя.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Мірон з Крычава

**У Магілёве і Крычаве прайшлі мітынгі з нагоды 12-й гадавіны аварыі на Чарнобыльскай АЭС, якія ладзілі прадстаўнікі дэмакратычных партыяў.**

Мітынгі атрымаліся нешматлікімі: у іх удзельнічала прыкладна па 100 чалавек.

На ўездзе ў Магілёў устанавілі крыж у памяць усіх ахвяраў чарнобыльскай трагедыі. Гэты крыж мусіў там з'явіцца яшчэ ў мінулую гадавіну Чарнобыля, але тады невядомыя скралі яго (пра гэта паведамляла газета СВАБОДА).

У Крычаве ўлады загадзя выклікалі лідэра гарадской арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Сяргея Няроўнага і вынеслі папярэджанне за распаўсюджванне ўлётак Хартыі-97. Улёткі гэтыя з'явіліся на сценах горада больш як месяц таму, а ўзгадалі пра іх напярэдадні мітынга. Галоўным удзельнікам чарнобыльскай акцыі стаў мясцовы Мірон, які ў чарговы раз вывесіў у ноч з 25 на 26 красавіка бел-чырвона-белы сцяг на 50-метровым коміне кацельні ў цэнтры Крычава.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

*Беларусь — Украіна*

## Маладыя разбяруцца

**У мінулыя выхадныя Гомель стаў цэнтрам супрацоўніцтва маладых інтэлектуалаў Беларусі і Украіны.**

Гомельскі маладзёжны культурна-асветніцкі цэнтр «Яравіт» пры фінансавай падтрымцы Фонду «Еўразія» наладзіў 25-26 красавіка ў Гомелі канферэнцыю «Беларусь — Украіна: гістарычныя шляхі і перспектывы. Погляд моладзі». Абмеркаваць развіццё ўзаемадачыненняў паміж краінамі-суседкамі з'ехаліся навукоўцы і грамадскія дзеячы з Кіева, Адэсы, Данецка, Крыма, Чарнігава, Мінска, Магілёва, Полацка. Госці былі вельмі прадстаўнічыя, сярод іх — дарадца ўрада Украіны В.Талкаванаў, загадчык кафедры паліталогіі Кіева-Магілянскай акадэміі М.Таменка, спікер маладзёжнага парламента Украіны А.Кляшторны, дэпутат Вярхоўнага Савета РБ П.Знавец і інш.

Удзельнікі канферэнцыі не баяліся закрануць і вельмі далікатныя пытанні беларуска-ўкраінскіх дачыненняў, у тым ліку праблемы этнічна-тэрытарыяльных спрэчак і падзелу гісторыка-культурнай спадчыны.

Як адзначыў на прэс-канферэнцыі прэзідэнт Цэнтра «Яравіт» Яўген Касцюшка, канферэнцыя павінна паспрыяць наладжванню і ўмацаванню міжнацыянальных кантактаў моладзі, народнай дыпламатыі, а значыцца, і паразуменню прадстаўнікоў дзвюх краінаў у самых розных і складаных пытаннях.

**Уладзімір СТАРЧАНКА**

## І зэкі хочуць жыць па-чалавечы

**У калоніі строгага рэжыму, што ў райцэнтры Горкі Магілёўскай вобласці, адбыліся хваляванні зняволеных.**

Па афіцыйных звестках, у іх брала ўдзел каля 600 чалавек. Зэкі патрабавалі палепшыць умовы ўтрымання ў калоніі. Горацкая «зона» разлічаная на 1.220 чалавек, але сёння за дротам жыве больш за 3.000. Жылыя памяшканні размешчаныя ў даваенных будынках, працы ў людзей амаль няма, харчаванне вельмі дрэннае. Даведчаныя людзі кажуць, што ў кашу для зняволеных аднойчы нават дамешвалі камбікорм.

Афіцыйныя прадстаўнікі міліцыі запэўніваюць, што беспарадкі супакойвалі цывілізавана — пагаварылі з людзьмі і пераканалі іх вярнуцца ў казармы. Але ёсць звесткі, што без гумавых дубінак не абышлося, выклікалі амонаўцаў нават з Магілёва.

**Іван ЗАСАДА**

## Back to the USSR?

**Спусцелыя прылаўкі харчовых крамаў сталі звыклай з'явай на Гомельшчыне.**

Услед за цукрам у разрад дэфіцыту трапілі масла, маргарын, сыры, тварог, усе віды каўбас, яйкі, куры, рыба, малочныя кансервы, субпрадукты, некаторыя гатункі хлеба... Такія пустыя прылаўкі каўбасных і мясных аддзелаў гомельцы бачылі апошні раз гадоў 10-12 назад, яшчэ ў часы СССР. Зноў, як і пры развітым сацыялізме, ля крамаў выстройваюцца велізарныя чэргі людзей, якія гадзінамі чакаюць прывозу прадуктаў.

Тым часам тавараабарот магазінаў катастрафічна падае. Толькі за апошні месяц, паводле статыстыкі, ён знізіўся на 20 працэнтаў. Спынілі работу і многія малочныя заводы вобласці. Спецыялісты лічаць, што без радыкальных зменаў у сістэме цэнаўтварэння нельга вырашыць праблему дэфіцыту харчовых прадуктаў.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Дыпламатаў чакае пераезд

**Замежныя дыпламатычныя прадстаўніцтвы, размешчаныя ў комплексе Драздзы пад Мінскам, неўзабаве вымушаныя будуць пераехаць у новае месца.**

Як паведаміў намеснік міністра замежных справаў Мікалай Бузо, прычынай гэтага стаў нездавальняючы стан сістэмаў электра- і водазабеспячэння, каналізацыі, ачышчальных збудаванняў. Пасёлак Драздзы быў пабудаваны яшчэ ў канцы 50-х гадоў, і з таго часу камунікацыі практычна прыйшлі ў нягоднасць. Для іх аднаўлення, па некаторых звестках, спатрэбілася б не менш за 700 мільярдаў рублёў.

Дыпламатычным прадстаўніцтвам прапанавана на выбар катэджы ва ўрадавым комплексе «Крылова» (каля 25 км на захад ад Мінска), а таксама кватэры ў прэстыжным доме па вуліцы Лодачнай у сталіцы (гэты дом будавала фірма дэпутата Андрэя Клімава, які цяпер утрымліваецца пад арыштам па абвінавачванні ў парушэнні парадку прадпрымальніцкай дзейнасці).

**Магдалена НЕПАКАЙ**

## Чарнобыльская станцыя будзе працаваць

**5 траўня трэці энергаблок Чарнобыльскай АЭС адновіць працу пасля рамонту — ён будзе адзіным дзеючым з чатырох рэактараў станцыі.**

Як паведаміў дырэктар ЧАЭС Сяргей Парашын, рамонт блока насіў прафілактычны характар і быў выкліканы выяўленнем пэўных непаладак у сістэме трубаправодаў. Па словах спецыялістаў, няспраўнасці нескладаныя і не выклікаюць пагрозы. Паўтарэнне аварыі накшталт той, што здарылася ў 1986 годзе, немагчымае, запэўніў С.Парашын, бо станцыю патранірують шматлікія наглядальнікі, эксперты і вучоныя з розных краінаў.

*БелаПАН*

## Прафсаюзы падлічылі...

*Кожны восьмы працаўнік у Беларусі не атрымлівае заробленыя грошы своечасова*

Усяго ж, па звестках Федэрацыі прафсаюзаў, сума запазычанасці дзяржавы працоўным перавысіла трыльён рублёў. Відавочнае зніжэнне ўзроўню жыцця насельніцтва: у першым квартале года спажывецкія цэны павялічыліся на 10,6% пры запланаваным на 1998 год росце 2%. Асабліва высокімі тэмпамі растуць цэны менавіта на сацыяльна значныя тавары, у тым ліку на харчовыя, а таксама тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі і транспарт. У той жа час, насуперак Генеральнаму пагадненню, заключанаму паміж урадам, прафсаюзамі і наймальнікамі, заработная плата ў шэрагу галін эканомікі (лёгкай прамысловасці, лясной гаспадаркі, ахове здароўя) застаецца недапушчальна нізкай.

Пры гэтым прафсаюзы асаблівую ўвагу звяртаюць на бядотнае становішча ў аграпрамысловым комплексе, дзе ўзровень сярэднемесячнай зарплаты амаль у два разы ніжэйшы за прадугледжаны галіновым тарыфным пагадненнем і складае ўсяго 55% ад агульнай сярэдняй зарплаты. У красавіку запазычанасць па выплатах у калгасах дасягнула сумы 462 мільярды рублёў, у саўгасах — больш за 161 мільярд рублёў.

*БелаПАН*

# Адзін год у Акадэміі міліцыі

Добры дзень, паважаная СВАБОДА! Нягледзячы на тое, што газета выходзіць цяпер пад іншай назвай, я ўспрымаю яе менавіта як СВАБОДУ.

Я даўні ваш пастаянны падпісчык. Вельмі ўдзячны калектыву рэдакцыі, што выпускаеце такую газету. Я жыву на захадзе Беларусі, у Іўеўскім раёне, бліз мяжы з Літвой. На вялікі жаль, тэлевізар прымае ў нас толькі каналы БТ, ОРТ і тры літоўскія. І скажу вам шчыра — лепш бы я ведаў літоўскую мову, чым рускую. Гэта дало б магчымасць слухаць аб'ектыўныя навіны, а канал ОРТ нельга назваць такім.

Так што мяне і выратоўвае чытанне СВАБОДЫ. Асабліва падабаецца, што вы так паведамляеце пра апошнія падзеі ў краіне, што, чытаючы, як быццам сам знаходзішся на месцы падзей. Таксама вельмі цікава чытаць матэрыялы замежнай прэсы — хоць ведаеш, што на самой справе пра нас думаюць за мяжой.

А яшчэ хачу напісаць пра адну размову: дзеля гэтага я, уласна кажучы, і сеў за гэты ліст. На Вялікдзень сустрэўся я са сваім знаёмым, які вось ужо год адвучыўся ў Мінску ў Акадэміі міліцыі. Я жартам спытаўся, ці не ўдзельнічаў ён часам у разгоне якой-небудзь дэманстрацыі ў сталіцы. Спачатку ён не адказаў, але пасля яго прарвала. Вы не можаце сабе ўявіць, як ён са мной спрачаўся, у яго нават выступіла пена на вуснах. А спрачаліся мы ўсё наконт тых жа дэманстрацый. Я студэнт-завочнік эканамічнага факультэта і, прыязджаючы на вучобу ў Мінск, ніколі не прамінаю схадзіць на дэманстрацыю або мітынг, бо лічу гэта сваім абавязкам. І вось мы, сябры (цяпер ужо, напэўна, былыя), спрачаліся з ім, нібы два заклятыя ворагі. Як непрыемна я быў уражаны тым, якім нервовым, нявытрыманым, злым і жорсткім чалавекам стаў мой сябра! Я бачыў у ягоных вачах бляск, калі ён расказваў, як біў дэманстрантаў, калі б далі поўную волю. А калі я спрабаваў высветліць, ці дапускае ён, што кожны чалавек мае права выказаць свой мірны пратэст, дык у адказ чуў: «у нашай рэспубліцы кіраўніцтва толькі й думае, як зрабіць, каб народу жылося лепш». Таму, маўляў, няма чаго і пратэставаць.

Я ўбачыў, як за адзін год можна змяніць чалавека. Цяпер мой сябра, якога выхавалі ў духу асабістай адданасці прэзідэнту, пойдзе за ім і ў агонь, і ў ваду. Ён — зомбі. У гэтага будучага ахоўніка правапарадку не стала аніякіх маральных прынцыпаў і каштоўнасцяў. Ён сказаў: *«Я убил бы любого под бело-красно-белым флагом: инвалида, ребенка, старика, женщину, в том числе и беременную, и даже мать или отца, потому что полковники говорят, что если мы не выполним приказ, то нас убьют и скажут, что погиб от демонстрантов. А домой придет цинковый гроб».*

Я не хачу ў гэта верыць. Я спадзяюся, што мой сябра крыху перабольшвае. А раптам — не?

У мяне будзе вялікая да вас просьба: калі вы захочаце надрукаваць які ўрывак з майго пісьма, то не пішыце, калі ласка, поўнасцю маё прозвішча. Безумоўна, я вельмі шкадую, што не магу падпісацца поўна, але думаю, вы разумееце, што з-за гэтага ў наш час можна страціць працу, што пры пэўных абставінах ох як дрэнна.

**З павагай Васіль К-НІЧ,**
*Іўеўскі р-н*

# Гаварыць «усю праўду» патрабуецца толькі ў судзе

«Народны Фронт заўсёды казаў людзям праўду!» — сцвярджаюць лідэры і актывісты БНФ. І супраць гэтага лозунга нельга выказаць ніводнага контраргумента. Сапраўды, Фронт ніколі не хлусіў. Гэта несумненна надае яму ачкоў. Але гаварыць «праўду, адну толькі праўду і нічога, акрамя праўды», патрабуецца ў судзе. Палітыка ж — гэта мастацтва рэальных магчымасцяў.

Фронт пастаянна апелюе да каштоўнасцяў высокіх, узнёслых, а не да тых, якія можна памацаць рукамі. Я не ведаю сярод фронтаўскага кіраўніцтва «прыкладных» прафесіяналаў — толькі мастацтвазнаўцы, філолагі, фізікі-тэарэтыкі. Яны, няма сумневу, — эліта нашай нацыі. Але я не магу ім поўнасцю даверыцца, бо не ўпэўнены, што яны ўмеюць кіраваць дзяржавай, эканомікай, войскам, міліцыяй. І з гэтай прычыны мае сімпатыі ў большай ступені выклікаюць так званыя «ліберальныя» палітыкі. Мне хочацца верыць, што «аб'яднаныя грамадзяне» — аб'ядналіся не толькі паміж сабой, але і са мной. Што яны падзяляюць мае каштоўнасці і гатовыя ахвяраваць сабою дзеля Бацькаўшчыны — так, як Фронт, але ў выпадку чаго зробяць гэта больш прафесійна.

**Віктар БАРЭЦКІ,**
*інжынер, 37 гадоў*

# Мало быть «просто демократом»

Возможно, мои оценки покажутся слишком резкими, но «либеральные» политики лично мне никогда не внушали доверия. Это не конструктивная оппозиция, а политики-популисты, которые пытаются угодить советским ожиданиям нашего все еще, к сожалению, советского электората, тем самым укрепляя, цементируя это его состояние. Я сомневаюсь, что для них представляет какую-либо ценность независимость Беларуси и вообще наша страна как таковая со своим национальным обликом. Они, кажется, любят не Беларусь, а просто демократию, просто рынок и просто власть.

Многие из них — настоящие профессионалы в своей области, но этого мало, чтобы быть элитой нации. Другими словами, они не отстоят Беларусь, это не те люди. Да они демократы — но не белорусские, а советские или постсоветские — как угодно.

**Артем ГВОЗД,**
*г. Могилев*

# Я не против популизма, но...

Никак не могу понять: неужели оппозиционные политики не умеют выражаться нормальным человеческим языком? Не так давно в одной из независимых газет прочитала их слова: *«В первый год увеличим среднюю зарплату и пенсию до 100 и 50 долларов соответственно (сегодня средняя зарплата составляет менее 70 долларов, пенсия — менее 40 долларов)»* — такие обязательства взяли на себя представители оппозиции, вошедшие в Национальный комитет во главе с Карпенко. В случае прихода к власти они гарантируют, что *«через 2–3 года средняя зарплата достигнет уже 200 долларов, через 3–5 лет — 250–300 долларов».*

Что должна означать эта совершенно общая фраза? Мне непонятно, что такое «средняя пенсия» и что такое «50 долларов в первый год». Я не знаю, буду ли я жива «через 3—5 лет» после их весьма гипотетического «случая прихода к власти» и сколько еды я смогу купить на обещанную сумму. Когда за президентский пост боролся Лукашенко, он врал откровенно, но доходчиво: запущу заводы, дам телевизор и холодильник каждому, а не «среднестатистической семье».

Я в принципе не против здорового популизма, он необходим. Но если уж браться за такие методы, то делать это надо грамотно. А подобными фразами никого не убедишь. Моих сверстников — так уж точно.

**Клавдия ПУСТОВАЛОВА,**
*66 лет, врач*

# Чыноўнікі спяць

Медыкам нашай краіны добра вядома, што павелічэнне выпадкаў захворваемасці на туберкулёз набыло ў нас характар эпідэміі. Таму вельмі дзіўна, што ў нашых Асіповічах ужо 2 месяцы адсутнічае туберкулін — дыягнастычнае рэчыва для пастаноўкі пробаў манту, з дапамогай якіх выяўляецца інфіцыраванасць туберкулёзам. Прашу вас паведаміць гэтую інфармацыю тым чыноўнікам, ад якіх залежыць вырашэнне гэтай праблемы.

**Таццяна БАРЭЛЬ,**
*г.Асіповічы*

# Шкура дороже головы?

Уважаемая редакция! Нигде ничего не писали, что делает президент Лукашенко со своими подарками. Я читал, что во время визита в Приморье тамошний губернатор Евгений Наздратенко подарил Александру Григорьевичу шкуру амурского тигра. По нынешним временам это ценный сувенир, тем более, что амурский тигр считается исчезающим видом. Любопытно, что делает президент с таким подарком? Возможно, он пылится где-нибудь без надобности.

Выход из затруднительного положения, между прочим, нашел Иосиф Кобзон — звезда советской эстрады. Во время гастролей в Минске наш президент сделал ему «царский» подарок, вручив голову беловежского зубра. Вернувшись в Москву, Кобзон передал подарок в детский сад. Конечно, тигровая шкура вещь более полезная нежели голова зубра. Но так хотелось, чтобы друг детей Александр Григорьевич все же сделал благородный жест и передал приморский сувенир в какое-нибудь детское учреждение или музей. А может президенту так дорога дружба с российским губернатором, что он не может расстаться со шкурой и держит ее в своей спальне?

**Михаил ПЛЕТНЕВ,**
*г.Минск*

# «Пазбіраем усіх сваіх жывых і мёртвых»

Мне спадабаўся артыкул Паўліны Качатковай «На магіле Багдановіча трэба паставіць крыж». Аўтарка ведае, пра што піша. Праўда, галоўны аргумент спадарыні Паўліны, маўляў, Багдановіч быў пахаваны «паводле праваслаўнага абраду з удзелам святара і псаломшчыка», мне падаецца не зусім пераканаўчым. Вярнуўся ж прах святой Еўфрасінні Полацкай з Ерусаліма на родны бераг Палаты. Вярнуўся з Масквы ў Мінск Янка Купала. Вярнуўся ў 1991 годзе ў родную Вільню з Закапанага Іван Луцкевіч.

Як толькі пачынаецца дыскусія наконт пераносу магілаў беларускіх сыноў і дачок на радзіму, адразу ўзгадваю радкі Ларысы Геніюш з яе балючай «Споведзі»: *«Мне думалася, што некалі мы пазбіраем усіх жывых і мёртвых і прывязем у свой беларускі дом, які будзе народным, бацькавым, любым домам для нас».* Гэтак яна разважала, калі хавала ў Празе 16 сакавіка 1943 года прэзідэнта БНР Васіля Захарку. Ларысу Антонаўну пазней цяжка абвінавачваць у атэізме (менавіта яна дамаўлялася з праваслаўным святаром на пахаванне дзядзькі Васіля). Мне здаецца, калі б Ларысе Геніюш выпала памерці недзе на чужыне, яна ў тастаманцы абавязкова намовіла б вярнуць свае парэшткі ў родны край.

Таму не ўсё так проста. Не ведаю, як вырашыцца лёс магілы Багдановіча (у гэтым выпадку сапраўды ёсць вельмі сур'ёзныя праблемы), а вось магілы з Сібіры трэба звозіць на Бацькаўшчыну. І пачаць трэба з Уладзіміра Жылкі. Няўжо мы іх пакінем на вечную высылку: не па сваім жаданні трапілі яны ў тыя мядзведжыя куты, не было пры іх трунах святароў, часам і зусім не было тых трунаў, большасць беларускіх герояў пахаваныя ў агульных масавых пахаваннях... А «Тастамант» Уладзіміра Жылкі мы маем, у ім чорным па белым напісана: *«На могілках зацішных Росы хачу спачыць ад калямут. Сачыцьмуць мой спакой найпільней муры старой, каханай Вільні».*

І яшчэ. Вялікі грэх на душы і сяброў Саюза пісьменнікаў. Яны так і не паставілі помнік у Курапатах закатаваным НКВДыстамі пісьменнікам. Хоць адзін на ўсіх..

**Алесь АРКУШ**

# Лідэр маладых быў завербаваны?

*Прэс-рэліз «Маладой Грамады»*

23 красавіка адбылася прэс-канферэнцыя былога старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай арганізацыі «Маладая Грамада» Паўла Карназыцкага. Тэмаю сталася яго нечаканая адстаўка з пасады кіраўніка арганізацыі праз два тыдні пасля абрання.

Падзеі разгортваліся так. На трэці дзень пасля абрання на пасаду да П.Карназыцкага прыйшлі супрацоўнікі КДБ і, пагражаючы скампраметаваць яго ў вачах дэмакратычнай грамадскасці, запатрабавалі інфармацыю на сяброў «Маладой Грамады» і аб планах арганізацыі. У якасці кампрамату была скарыстаная заява аб добраахвотным супрацоўніцтве з Камітэтам дзяржаўнай бяспекі, напісаная почыркам, падобным на почырк Паўла. Гэтая папера была поўнай нечаканасцю, бо Карназыцкі не ведае, калі і пры якіх абставінах яна з'явілася на свет. Але Павел мае падазрэнні, што яна магла быць напісаная ім у стане наркатычнага ўздзеяння. Яно мела месца напрыканцы жніўня 1997 года, падчас неафіцыйнай размовы з супрацоўнікамі КДБ, у выніку якой ён страціў прытомнасць і ачуняў са следам укола на левай руцэ.

Заходзячы з таго, што дэмаралізаваны лідэр не здолее прынесці нейкую карысць арганізацыі, Карназыцкі звярнуўся да Цэнтральнай рады «Маладой Грамады» з просьбаю склікаць нечарговы з'езд і прыняць яго прыпынную адстаўку.

*Прэс-служба «Маладой Грамады»*

# Покупатели воздуха

## *Из цикла «Частное мнение гражданина Старикевича»*



Весеннее пробуждение политической жизни в Беларуси в этом году связано в основном с предчувствием скорых выборов. Якобы грядущие избирательные кампании стали не только темой оживленных дискуссий, но и руководством к действию для некоторых политиков.

Даже если сведения о том, что глава государства пообещал представителям европейских структур объявить досрочные парламентские выборы, верны, это еще ни о чем не говорит. Цена слову Лукашенко известна. Скорее всего, он ведет очень предварительный зондаж, чтобы выяснить, позволят ли ему в принципе спекулировать выборами. В то же время первая реакция заинтересованных сторон настораживает. Похоже, для многих деятелей оппозиции выборы становятся самоцелью, а не политическим инструментом.

Едва ли не первым призвал всех готовиться к президентской гонке Анатолий Лебедько. Предложенные им «пять шагов к единому кандидату» благополучно накрылись после того, как выяснилось, что в одной ОГП в наличии имеются минимум два претендента на кресло главы государства. Затем на первый план вышла тема досрочных парламентских выборов. При этом единственной оппозиционной структурой, которая отказалась отступить хоть на йоту от Конституции 1994 года, является Белорусский Народный Фронт. Все остальные поторопились заранее продемонстрировать готовность к уступкам.

Так, Станислав Богданкевич заявляет, что *«оппозиции нужно исходить из того, что парламентские выборы должны проходить по легитимной Конституции 1994 года. Но понятно, что нынешний режим на возвращение Конституции никогда не пойдет. Тут возможен компромисс в той или иной форме...»* Ему вторит Николай Статкевич: *«Оппозиция должна требовать восстановления действия Конституции 1994 года. Но всем ясно, что это нереально, и это можно рассматривать* ***как первоначальную позицию, от которой неизбежно придется отходить*** *(Выделено мной. —* ***А.С.****) ради возможного компромисса...»* Еще дальше пошел лидер коммунистов Сергей Калякин, который согласен участвовать в выборах, если в государственные СМИ «допустят слово правды».

Между прочим еще вчера вышеозначенные персоны выступали в роли главных хранителей Конституции 1994 года и выставляли ее в качестве единственной общей платформы, объединяющей националистов, коммунистов и прочих противников Лукашенко. Однако такая добродетель, как последовательность, оказалась глубоко чуждой некоторым оппозиционным политикам. Меня сложно упрекнуть в любви к «красным», но ей-Богу нынешним демократам не повредило бы позаимствовать у большевиков старой закваски хотя бы толику боевых качеств. (Можете вы себе представить такую ситуацию: ноябрь 1941 года, немцы под Москвой. В Минске собирается подпольный пленум ЦК КПБ и решает: «Значит так, мужики. Союзу — крышка, шансов на возвращение Советской власти нет. Поэтому принимаем решение бороться с фашистскими захватчиками путем выборов и формируем делегацию для поиска компромисса с оккупационным режимом». Правильно, не можете. Поэтому стыдно становится за наших демократов, которые мямлят о невозможности возвращения Конституции 1994 года.)

Но и это не предел. Существует точка зрения, что идти надо вообще на любые выборы и на любых условиях. В частности, она изложена одним из лучших белорусских политологов Юрием Дракохрустом в «Белорусской деловой газете». Уважаемый коллега говорит правильные слова о том, что *«участие в выборах — обычный и необходимый элемент политической борьбы»*, что *«достижение совершенной демократии происходит через демократию несовершенную»*, наконец, о том, что нельзя сидеть сложа руки и ждать, пока тебе принесут желаемое на блюдечке с голубой каемочкой. Дракохруст упоминает о ситуации в Литве, когда «Саюдис» участвовал в выборах в «оккупационный» ВС ЛССР, тем самым проводя параллель с Национальным собранием.

Итак, все на выборы. По этому поводу противники президента уже ввязались в торг, который им показался уместным. Хотя выборы не есть товар, который принадлежит Лукашенко. И покупать их так же глупо, как покупать воздух. Но, если находятся желающие, то почему бы режиму не извлечь из этого дивиденды. В оппозиционных кругах уже муссируется информация, что взамен за проведение парламентских выборов Лукашенко хочет получить признание своих президентских полномочий до конца 2001 года.

Оппозиция же продолжает совершать элементарные ошибки. Возвращаясь к словам Статкевича, можно констатировать, что с точки зрения политической торговли он совершенно справедливо оценил Конституцию 1994 года как «первоначальную позицию». Но зачем было тут же объявлять о «неизбежном отходе» от нее? На старте продавец и покупатель должны придерживаться своего рода полюсов, чтобы в итоге получить максимально выгодную для себя окончательную цену. Что и делает Лукашенко, заявляя об отсутствии желания проводить выборы (то есть продавать товар вообще). Исходя из своего статуса, оппоненты президента в принципе не должны проявлять большой интерес к потенциальной покупке, иначе продавец заломит заоблачную цену. Вместо этого они сразу заявляют о готовности чуть ли не снять с себя последние штаны.

Очевидная нелепость такого поведения все-таки вынудила противников президента скорректировать свою позицию. Геннадий Карпенко в «Народной воле» от имени Верховного Совета выставил условия, при которых возможно проведение выборов. Но обращает на себя внимание формулировка одного из них: *«приведение к европейским стандартам Конституции Республики Беларусь»*. Речь явно не об Основном законе, принятом в 1994 году, поскольку он-то как раз вполне соответствует этим самым стандартам. Так что же Карпенко намерен редактировать? Президентскую конституцию, что ли?

Наверное, все-таки нет. Сейчас в кулуарах обсуждается возможность выборов нового парламента по так называемому «третьему варианту», предусматривающему некий компромисс между двумя редакциями Конституции. В реальность создания такой согласительной конструкции, а тем паче в ее жизнеспособность, верится с трудом. Помнится, в ночь с 21 на 22 ноября 1996 года было подписано «мировое соглашение», предусматривавшее учреждение Конституционного собрания и кое-что еще. Нет нужды напоминать, что было дальше. Точно так же закончатся любые другие «компромиссы» с Лукашенко.



*«Выборов не будет» — заявляет Лукашенко. Он не спешит продавать свой товар.*

Причины, побуждающие оппозиционных политиков искать приключения на свою голову, достаточно просты. Прежде всего, это по-человечески понятное желание вернуть хоть какой-то официальный статус, чтобы снова почувствовать себя в своей тарелке — никак дело привычное и понятное. Внепарламентская деятельность задалась далеко не у всех и потому, дабы совсем уж не деградировать, нужно срочно заняться чем-то привычным. К тому же ищет выход бьющий через край оптимизм партийных функционеров относительно результатов будущих выборов. К сожалению, их радужные ожидания на практике, как правило, не подтверждались.

Предполагаемые приобретения оппозиции в случае проведения выборов на иных условиях, нежели по Конституции 1994 года, весьма призрачны. Как это ни банально, но приходится напоминать, что национальное собрание по президентской редакции Основного закона не обладает сколь-нибудь значительными полномочиями. Некоторыми политиками рассматривается возможность использования палаты в качестве плацдарма во властных структурах для борьбы с президентом. Но эти надежды иначе как иллюзорными не назовешь. Ссылки на литовский опыт просто некорректны. «Саюдис» шел на выборы в Верховный Совет ЛССР, пользуясь колоссальной поддержкой своего народа. В той конкретной ситуации поставить под свой контроль такой законодательный орган было и возможно, и целесообразно.

Но в Беларуси иная ситуация. За последние три года число противников президента несомненно увеличилось. Но совсем не факт, что все они поддержат демократов, которые тоже ничем особенным за это время не отличились. Наиболее вероятно, что как и в 1995 году значительную поддержку получат «левые». В этом случае создаются прекрасные предпосылки для их альянса с президентом. Расхождения в программных установках между коммунистами и Лукашенко незначительны. Поэтому единственный вопрос, который им предстоит урегулировать — распределение сфер влияния. Конечно, здесь возможны разногласия вплоть до мордобоя, но, скорее всего, левые, памятуя о печальном опыте Верховных Советов двенадцатого и тринадцатого созывов, проявят сговорчивость. И уж во всяком случае ставку на неизменность их отношения к президенту делать никак нельзя, хотя бы вследствие большой степени зависимости белорусских «красных» от своих российских единомышленников.

Можно, конечно, от безысходности принять заведомо невыгодные правила игры. Но это означает обречь себя на очередные поражения. Однако существует и альтернативный подход: если нет реальных шансов выиграть, нужно постараться хотя бы не проигрывать. Когда противник превосходит тебя, чаще всего выгоднее какое-то время уклоняться от поединка, чем потерпеть поражение.

Есть и еще одно обстоятельство, которое нужно принимать во внимание. Геннадий Карпенко констатирует: *«Нужны досрочные выборы прежде всего президенту и его окружению»*. Действительно, наступил момент, когда Лукашенко угодил в достаточно сложное положение. С решением сверхзадачи перехода на российскую политическую сцену дела у него обстоят неблестяще. Шансы на то, что прорыв в Россию удастся осуществить до 2000 года, тают на глазах. В Москве никто — ни правые, ни левые, ни центристы — не жаждут накануне президентских выборов получить дополнительного претендента на кремлевский престол. А до 2001-го еще надо как-то дожить. Время же сейчас работает против Лукашенко.

Президент, наконец, остался один на один с экономикой и похвастаться ему особо нечем. Статотчеты о росте валового продукта — это, конечно, хорошо, но для обывателя не совсем понятно. А вот исчезновение с прилавков самых обычных продуктов, рост курса доллара, появление задолженности по зарплате — вещи гораздо более ощутимые. И связываются они в основном с нашим единственным и неповторимым. Можно предполагать, что эти процессы будут идти по нарастающей со всеми вытекающими отсюда последствиями для главы государства.

Конечно, очень жаль, что приходится полагаться на такие факторы, как экономика, время и так далее. Однако тактику и стратегию действий необходимо вырабатывать на основе реальной оценки собственных сил и сопутствующих обстоятельств. Как говорится, «чем богаты...».

Очень скоро президенту придется искать способ выпустить пар. Зная Лукашенко, можно не сомневаться, что он постарается сделать это за счет оппозиции. Как бы то ни было, ее согласие на участие в выборах вернет нынешней власти относительную легитимность. Плюс будущий парламент займет пустующее с некоторых пор место громоотвода, которого Лукашенко так не хватает. А оппозиция в глазах рядовых избирателей разделит с президентом ответственность за ситуацию в стране.

Лукашенко, несомненно, постарается навязать оппозиции выборы на своих условиях. Он хорошо знает слабые стороны своих противников, которые уже неоднократно сдавали ему позиции. Наиболее вероятно, что он прибегнет к волевому варианту и постарается поставить всех перед свершившимся фактом, как это было, например, в случае с конфискацией у Верховного Совета «Народной газеты». Дескать, будет так и никак иначе! Депутаты тогда поворчали, повозмущались, но в конце концов проглотили президентскую пилюлю. Совершенно не исключено, что таким же образом оппозиции постараются скормить и выборы. Нынешние разговоры исполняют роль своеобразного аперитива, призванного разжечь у нее аппетит. Теперь охотников до парламентских мандатов некоторое время подержат на голодном пайке, чтобы спустя некоторое время они почли за счастье участвовать в любых выборах. Власть будет всячески провоцировать своих оппонентов на сговорчивость, не гнушаясь ни посулами, ни дезинформацией. И если они вновь дрогнут и отступят перед упрямством Лукашенко, последствия окажутся катастрофическими.

Самое разумное, что может предпринять в данной ситуации оппозиция — держать паузу и не лезть поперед «батьки» в пекло выборов. Это само собой не означает, что нужно сидеть и плевать в потолок. Но и подменять нынешнее бездействие бездумным действием не резон.

Выборы могут стать ключом для выхода из тупика, в котором оказались и режим, и оппозиция. Но дверь откроется только для кого-то одного. И, как абсолютно справедливо заметил Юрий Ходыко, «тот, кто сделает первый шаг — проиграет».

Белорусской оппозиции не следует забывать одну старую истину. Тот, кто умеет ждать, часто получает даром то, за что нетерпеливый платит очень дорого. От себя добавлю: тот, кто не умеет ни ждать, ни действовать, остается у разбитого корыта.

**Александр СТАРИКЕВИЧ**

*Нямецкая прэса пра паездку А.Лукашэнкі ў Германію*

# Кандыдат у канцлеры вымушаны апраўдвацца

Як вядома, 22 красавіка на Гановерскім кірмашы адзін з лідэраў Сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі і кандыдат у канцлеры Герхард Шродэр сустрэўся з беларускім прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам. Гэтая сустрэча выклікала адназначна негатыўную рэакцыю міністэрства замежных справаў ФРГ.

Як піша нямецкая прэса, напярэдадні кірмашу прадстаўнік МЗС сп.Эрдман звярнуў увагу на рашэнне Еўрапейскага саюза ад 15 верасня мінулага года, згодна з якім дзяржавам-членам ЕС не рэкамендуецца падтрымліваць адносіны з Беларуссю на высокім узроўні. Калі ў студзені стала вядома, што Лукашэнка прыедзе на Гановерскі кірмаш з прыватным візітам, МЗС ФРГ разаслала па ўсіх дзяржаўных канцылярыях лісты, у якіх гаварылася аб непажаданасці якіх бы там ні было двухбаковых перамоваў з беларускім прэзідэнтам. Між тым Герхард Шродэр сустрэўся з Аляксандрам Лукашэнкам.

Спікер бундэстага сп.Шміт лічыць, што прэм'ер-міністр зямлі Ніжняя Саксонія сп.Шродэр *«проціпаставіў сябе Еўрасаюзу і бундэстагу, рашэнні якіх былі таксама падтрыманыя фракцыяй сацыял-дэмакратаў»*. На думку Шміта, Лукашэнка абавязкова скарыстае факт сваёй сустрэчы з дзяржаўным дзеячам Германіі ў асабістых мэтах і пастараецца прадставіць гэта як знак таго, што міжнародная ізаляцыя Беларусі нарэшце прарвана. Нямецкія аналітыкі выказваюць думку, што *«ў Мінску Лукашэнка захоча паказаць сябе як партнёра ў перамовах з кандыдатам у канцлеры»*.

Дэпутат бундэстага Лютгар Вольмер, член Партыі зялёных, назваў паводзіны Шродэра *«неразважлівымі»*, а рашэнне сустрэцца з Лукашэнкам *«грубай палітычнай памылкай»*, якая, на думку многіх, можа прывесці да *«непрыемных наступстваў у парламенце»*. Ліберал Ота Граф Ламбсдорф папракае Шродэра ў тым, што *«ён (Шродэр) не ўспрымае сур'ёзна парушэнні правоў чалавека»*.

Элізабет Шродтэр, якая з'яўляецца ў Еўрапейскім парламенце спецыяльным дакладчыкам па Беларусі, выступіла з рашучай крытыкай на адрас Герхарда Шродэра. *«Напэўна, сам Шродэр не ўяўляе, якую кепскую паслугу зрабіў ён дэмакратычнай апазіцыі ў Беларусі»*, — цытуе словы Э.Шродтэр газета *Frankfurter Rundschau*. На думку дэпутата Еўрапарламента, гэтая сустрэча адбылася ўразрэз з агульнай пазіцыяй Еўрапейскага саюза, які не хоча мець ніякіх кантактаў з рэжымам Лукашэнкі, пакуль у Беларусі не будуць выконвацца міжнародныя стандарты правоў чалавека.

Як пішуць нямецкія газеты, гутарка Шродэра і Лукашэнкі адбылася па просьбе кіраўнікоў буйных нямецкіх кампаніяў *MAN* і *Continental*. Падкрэсліваецца, што сустрэча не мела ніякага палітычнага характару: гаворка ішла выключна аб заключэнні здзелак з беларускімі прадпрыемствамі. Прадстаўнік *Continental* (гэтая кампанія займае 4-е месца ў свеце па выпуску аўтамабільных шын) выказаў шкадаванне адносна таго, што сустрэча выклікала шквал крытыкі ў адрас кандыдата ў канцлеры Шродэра. На яго думку, Шродэр пайшоў на такі крок па просьбе *MAN* і *Continental* выключна з меркаваннаў падтрымкі бізнеса нацыянальных вытворцаў. У якасці апраўдальнага аргумента прыводзіцца той факт, што Шродэр адмовіў Лукашэнку ў арганізацыі прапанаванага ім візіту на афіцыйным узроўні.

Падчас гутаркі Шродэр адназначна негатыўна ацаніў унутраную палітычную сітуацыю ў Беларусі. На сустрэчы абмяркоўваліся пытанні, што датычаць *«выключна эканамічнага супрацоўніцтва нямецкіх прадпрыемстваў з беларускімі партнёрамі»*. Старшыня праўлення *Continental* сп.Грунберг перакананы, што *«без дапамогі Шродэра не было б дасягнута пагадненне аб супрацоўніцтве, якое падпісаў беларускі прэзідэнт»*. Кампанія *Continental* падпісала таксама мемарандум аб супрацоўніцтве з бабруйскім камбінатам «Белшына». Чакаецца, што ўжо ў гэтым годзе *Continental* пачне выпускаць шыны для беларускіх трактараў і будаўнічай тэхнікі. Пры пазітыўных тэндэнцыях у супрацоўніцтве запланавана стварэнне сумеснага прадпрыемства ў 1999 годзе.

Для правядзення перамоваў з праўленнем кампаніі *MAN* Аляксандр Лукашэнка наведаў завод па выпуску колавых цягачоў у г.Зальцгітэр. Тут гутарка ішла аб рэалізацыі дамоўленасцяў, дасягнутых яшчэ ў 1997 годзе. *MAN* мае намер распачаць выпуск цяжкіх грузавікоў на плошчах МАЗа. Ідзе падрыхтоўка да адкрыцця сумеснага прадпрыемства, 51 працэнт у якім будзе належаць германскаму канцэрну. З кампаніямі *Siemens* і *Deutsche Telecom* дасягнута дамоўленасць аб арганізацыі ў Беларусі мабільнай тэлефоннай сеткі.

На думку нямецкай прэсы, незалежна ад адносінаў да персоны самога Лукашэнкі, у Германіі існуе станоўчае меркаванне аб Беларусі, аб яе высокіх патэнцыяльных магчымасцях развіцця пры наяўнасці спрыяльных палітычных і эканамічных умоваў. У нямецкіх прадпрымальнікаў Беларусь выклікае ўсё большую цікавасць. Яна лічыцца важным рэгіёнам з пункту гледжання транзіту і выхаду на расійскія рынкі. Станоўчую ацэнку Беларусі дае вядомы нямецкі прадпрымальнік Дзітэр Ота. Ён шкадуе, што *«для шмат каго Беларусь застаецца белай плямай»*. Нямецкія кампаніі ўклалі ў Беларусь 120 мільёнаў долараў, і ўжо таму, лічыць сп.Ота, трэба садзейнічаць таму, каб Лукашэнка *«пазітыўна зарэкамендаваў сябе»*. Дзітэр Ота ў поўнай ступені садзейнічаў арганізацыі прэс-канферэнцыі Лукашэнкі на Гановерскім кірмашы, але ў прысутных там журналістаў засталося не самае прыемнае ўражанне пра кіраўніка Беларусі.

*БелаПАН*

## У Даніі – «чорны панядзелак»

27 красавіка ў Даніі пачаліся масавыя страйкі. Па-першае, прафсаюзы лічаць, што дывідэнды па акцыях прадпрыемстваў размяркоўваюцца несправядліва: адміністрацыя атрымлівае больш, чым работнікі. Па-другое, прафсаюзы патрабуюць, каб аплачаны штогадовы адпачынак для ўсіх працоўных быў мінімум шэсць тыдняў.



«Чорны панядзелак» пачаўся з адмены авіярэйсаў у аэрапорце Капенгагена і забастоўкі кіроўцаў гарадскіх аўтобусаў і грузавых аўтамабіляў. У супермаркетах пакупнікоў сустракалі пустыя паліцы *(на здымку)*.

## Дыета па-латышску

Генеральная пракуратура Латвіі адрэагавала на галадоўку прадпрымальніка А.Стэндзенiекса: на думку органаў аховы правапарадку, ён «проста сеў на дыету». Паказанні арыштаванага супраць высокіх латвійскіх чыноўнікаў пракуратура тлумачыць «палітычным заказам».

## Літоўская гарэлка падаражэла

У панядзелак спынілі вытворчасць усе сем літоўскіх гарэлачных заводаў. У выніку ўвядзення новага акцызнага падатку паўлітра гарэлкі падаражэла адразу амаль на долар, і заводы не маюць абаротных сродкаў, каб разлічыцца з бюджэтам. У параўнанні з мінулым годам вытворчасць спіртнога ў Літве скарацілася на 47%, аднак краіна па-ранейшаму займае першае месца ў Еўропе па смерцях з прычыны алкагалізму і алкагольных атручэнняў — 40 выпадкаў на 10.000 насельніцтва.

# Лебедь – птица темная

На выборах губернатора Красноярского края лидирует экс-секретарь Совета безопасности РФ генерал Александр Лебедь, набравший, по предварительным данным, около 45% голосов. Его противник, действующий глава администрации края Валерий Зубов, получил всего порядка 35%. Второй тур голосования ориентировочно состоится 17 мая.

Так уж повелось в России, что большие погоны стали своеобразным пропуском в большую политику. Вот уже без малого десять лет орденоносные генералы то и дело принимаются штурмовать коридоры власти. Правда, блистательных поражений на их счету пока гораздо больше, нежели бесславных побед. До недавнего времени одним из классических примеров этой тенденции был генерал Александр Лебедь.

После проигрыша в президентской гонке Б.Ельцину и отставки с поста секретаря СБ (на коем он сумел продержаться чуть больше четырех месяцев) фактически все его многочисленные попытки прорваться в высшие эшелоны власти заканчивались полным провалом. Причем провалы эти были закономерны и во многом объяснимы.

Причина лебедевских неудач прежде всего в том, что за ним никогда не стояло тех сил и структур, которые были бы способны обеспечить ему вхождение во власть, — ни банкиров, ни подконтрольных ему СМИ, ни собственной сильной команды у Лебедя не было. Что же касается созданной им партии и движения, то о них и говорить не стоит — ни Народно-республиканская партия, ни движение «Лебедь — наш президент» не сплотили в своих рядах сколько-нибудь влиятельных людей. Да и что говорить: Конгресс русских общин, который во время президентской кампании ставил на Лебедя, в этот раз в Красноярском крае поддерживает его оппонента В.Зубова.

Оценки бывших союзников сегодня впечатляюще категоричны. «Я считаю, что он ведет себя нечестно», — говорит в интервью журналу «Эксперт» лидер Конгресса русских общин Дмитрий Рогозин. — После первого тура президентских выборов он принял государственный пост из рук Ельцина. Потом в Чечне он вел себя не как миротворец, а как военный самодур. Кроме того, нам непонятно стремление генерала подавать себя как русского Пиночета. Это опасная роль. У политика в погонах может быть три пути: де Голль, Пиночет и Гитлер. России нужен первый, но Лебедь на эту роль не подходит».



*Знающие люди говорят, что Александр Лебедь чрезвычайно ревнив. Но он все-таки позволил приглашенному за большие деньги французскому актеру Алену Делону публично — и неоднократно! — целовать свою жену. Чем не пожертвуешь ради власти...*

После отставки с поста в Совете безопасности и, казалось бы, полного политического забвения, ситуация вокруг персоны Лебедя стала кардинально меняться с того момента, когда на «приднестровско-чеченского генерала» решил поставить Б.Березовский, обладающий помимо несомненного таланта теневого политика и мастера закулисной интриги всем необходимым для осуществления этого плана. У Березовского есть все три необходимые составляющие: деньги, связи и контроль над целым рядом российских СМИ (достаточно упомянуть ОРТ).

Выбор Березовского не случаен. Что бы ни говорили лебедевские оппоненты, фигура опального генерала в народе достаточно популярна. Как ни крути, Лебедь входит в сотню наиболее влиятельных российских политиков, неизменно попадает если и не в тройку, то уж в пятерку основных кандидатов в президенты, да и облик «армейского батьки» явно импонирует избирателям, соскучившимся по «сильной руке» и установлению порядка. Кроме того, Лебедь открыто жаждет власти, а посему будет послушной марионеткой в руках того человека, который ему ее даст.

По мнению наблюдателей, в предвыборную кампанию Лебедя закачиваются просто «бешеные деньги». Генералу нет никакого резона выходить из борьбы после первого тура: он может выиграть как раз во втором. А если выиграет — аналитики прогнозируют и такой вариант. Красноярский край — самый крупный суб'ект федерации, а в соседней бедствующей Туве губернаторствует родной брат Александра Лебедя. Вдвоем они без особого труда могут организовать соответствующее «волеизъявление народа» и произвести укрупнение, воссоединение, оправославление бусурманов — как угодно назовите, все лозунги нынче в ходу и в силу своей пустоты очень популярны. Присовокупленная к Приднестровью и Чечне Тува станет козырной картой Лебедя как кандидата в президенты всей России.

Так что если Березовский сумеет утвердить Лебедя на посту губернатора, то шансы его протеже на предстоящих президентских выборах увеличатся, и увеличатся значительно. А там, как знать, может, Березовскому удастся прикупить и своего карманного президентика. Именно по этой причине Кремлю сейчас крайне важно не допустить Лебедя на стартовую площадку президентских выборов, а посему можно не сомневаться: власти сделают все возможное для победы другого человека — Валерия Зубова. Правда, большая загадка — кто из них обладает большими возможностями для проведения на пост губернатора своего ставленника.

И еще. Даже если предположить, что Березовский сумеет провести Лебедя во власть, для государственных структур генерал как был, так и останется чужаком, за плечами которого нет ни обширных связей, ни идеологии, ни политического опыта. И с кем бы его ни сравнивали — с Пиночетом ли, Наполеоном Бонапартом или Де Голлем, — для Кремля Лебедь навсегда останется всего лишь Лебедем — амбициозной, дикfinancial... 

**Михаил ГРИГОРЬЕВ**

### *Юбілей*

У аўторак у Іраку было вялікае свята — дзень нараджэння Садама Хусейна. Іракскаму лідэру стукнула 61. Каб свята было сапраўды радасным, прадстаўнікі ўрадавай партыі Баас і мясцовыя органы ўлады раздавалі людзям шакалад і экзатычныя плады, атрыманыя па праграме «Нафта ў абмен на харчаванне». Садам стаў першай асобай Ірака ў 1979 г. Пры ім народ перажыў васьмігадовую вайну з Іранам, у якой абодва бакі абвясцілі сябе пераможцамі, і вайну ў Персідскай затоцы, у якой — паводле афіцыйных версіяў — перамаглі і Ірак, і Злучаныя Штаты.

### *Прарыў*

Еўрапейскі Саюз выкрэсліў Расію са спісу краінаў з «нерынкавай эканомікай». Гэты статус, замацаваны ў 50-х гадах за ўсімі сацыялістычнымі краінамі, дазваляў Еўрасаюзу прымяняць да іх тавараў асабліва жорсткія меры. У панядзелак «рынкавы» статус надалі таксама Кітаю. Краіны Балтыі атрымалі яго ў мінулым годзе. Беларусь у гэтым кантэксце нават не разглядалася.

### *Стыхія*

З паўночных раёнаў Аргенціны ўжо эвакуіравана больш за 130 чалавек. У выніку метэаралагічнага феномена «Эль-Ніньё» павыходзілі з берагоў рэкі, а лівні працягваюць ісці і ў Аргенціне, і ў суседняй Бразіліі. Паводле прагнозаў сінопцыкаў, сітуацыя можа стабілізавацца не раней, чым напачатку чэрвеня. Эканамічны ўрон ужо ацэньваецца ў 2,5 млрд. долараў.

# Канстытуцыя нашых продкаў

**Уладзімір АРЛОЎ**

410 гадоў таму з варштата віленскай друкарні братоў Мамонічаў пачала свой шлях у вялікі свет адна з найвыдатнейшых у беларускай гісторыі кніг — Статут Вялікага Княства Літоўскага.

Гэты звод законаў айчыны нашых продкаў, падрыхтаваны найлепшымі правазнаўцамі Вялікага Княства на чале з канцлерам Астафеем Валовічам і падканцлерам Львом Сапегам і зацверджаны ў студзені 1588 года вялікім князем Жыгімонтам III, справядліва быў прызнаны самым перадавым на той час кодэксам у Еўропе.

«Вольности своее во всем постерегаем, бо не только сосед а спольный наш обыватель в отчизне, але и сам господар пан наш жаднае звирхности над нами заживати не может, одно толко колко ему право допущаеть», — пісаў Леў Сапега ў змешчаным на пачатку Статута прысвячэнні кіраўніку дзяржавы і ўсім яе станам. Інакай кажучы, кодэкс законаў Княства абвяшчаў ідэю праўнай дзяржавы — такога парадку, калі ўсе органы і службовыя асобы павінны кіравацца выключна правам.

Юрыдычнай асновай новага зводу служылі ранейшыя Статуты ВКЛ 1529 і 1566 гадоў, а таксама пастановы соймаў і вялікакняскія прывілеі. На яго змест значна паўплывалі дасягненні еўрапейскай юрыдычнай думкі і традыцыйнае беларускае права, вытокі якога трэба шукаць у часы ўзнікнення Полацкага княства — нашай першай дзяржавы.

У адрозненне ад краінаў Заходняй Еўропы, дзе законы друкаваліся на незразумелай простаму люду лаціне, Статут быў створаны і выдадзены на тагачаснай беларускай мове, а значыць — яго раздзелы і артыкулы добра разумела пераважная большасць жыхароў нашай дзяржавы. Пра гэта з гонарам абвяшчалася ў прадмове: «Не обчим яким языком, але своим власным права списаные маем и каждого часу чого нам потреба ку отпору всякое крывды ведати можем».

Статут быў прыняты пасля Люблінскай уніі 1569 года, паводле якой адбылося аб'яднанне Вялікага Княства з Польскім каралеўствам, але, баронячы незалежнасць Бацькаўшчыны, укладальнікі кодэкса не змясцілі ў ім ні акта уніі, ні іншых нявыгадных Княству ўмоваў.

Звод законаў Вялікага Княства Літоўскага замацоўваў ягоны суверэнітэт, дзяржаўны і грамадскі лад, правы і абавязкі жыхароў. Сцвярджаючы ідэю рэлігійнай талерантнасці, Статут забяспечваў правы людзей незалежна ад іх веравызнання. Іншаземцам забаранялася набываць у нашай краіне зямлю, займаць дзяржаўныя пасады і атрымліваць ганаровыя званні. З увагі на Люблінскую унію гэтыя забароны датычылі найперш палякаў.

У продкаў варта было б павучыцца: у кожнага з нас на памяці скандалы, звязаныя з тым, што на адказныя дзяржаўныя пасады ў сучаснай Беларусі прызначаліся асобы, якія не мелі беларускага грамадзянства. Ну а ганаровыя званні раздаюцца сёння заезджым гастралёрам з такой самай лёгкасцю, як у часы Машэрава беларускіх школьнікаў вызвалялі ад вывучэння роднай мовы.

Міжвольныя аналогіі з сучаснасцю выклікаюць і тыя артыкулы Статута, якія абавязвалі вялікага князя вяртаць страчаныя ў ранейшых войнах і іншых канфліктах землі ды захоўваць недатыкальнасць дзяржаўных межаў.

Грунтоўна былі распрацаваныя ў Статуце 1588 года прынцыпы дзейнасці судоў, грамадзянскае і крымінальнае права. Кодэкс законаў нашай дзяржавы ўводзіў прэзумпцыю невінаватасці, у адпаведнасці з якой чалавек не можа лічыцца злачынцам, пакуль ягоную віну не давядзе суд.

Паводле закона, вольныя людзі ні за якое злачынства не маглі быць аддадзеныя ў вечную няволю. Кожны вольны чалавек (пры ўмове, што гэта не прынясе шкоды дзяржаве) меў права выехаць за мяжу. Разам з тым, як гэта было на той час ва ўсёй Еўропе, Статут адлюстроўваў няроўнасць асабіста свабодных жыхароў краіны. Напрыклад, грашовая кара за забойства войта, бурмістра або лаўніка (члена суда, які разглядаў крымінальныя справы) складала 50 коп грошай; за звычайнага месціча, што жыў у горадзе з Магдэбургскім правам, — 30 коп, а за шляхціча — 100 (капа = 60). Мяшчане не мелі права ўдзельнічаць не толькі ў агульнадзяржаўных соймах, але нават і ў павятовых сойміках.



*Тытульны аркуш Статута Вялікага Княства Літоўскага, выдадзенага ў 1588 годзе ў беларускай друкарні братоў Мамонічаў у Вільні.*

Закон усталёўваў адказнасць шляхціча за забойства простага чалавека, вызваляў ад смяротнай кары цяжарных кабет і прадугледжваў больш суровае пакаранне за злачынствы супраць жанчын. Смерць чакала гвалтаўнікоў. Той, хто напалохаў цяжарную, мусіў тры месяцы прабавіць у турме і, апрача таго, прынесці каля царкоўных дзвярэй публічнае пакаянне.

Падробка дзяржаўных пячатак (дарэчы, на пячатцы кожнага павета быў герб ВКЛ «Пагоня») каралася — у духу часу — спаленнем на вогнішчы. Смерць вельмі часта была прысудам і чужаложцам, якія зводзілі чужых жонак і якіх заспелі на гарачым. Аднак мы памыліліся б, палічыўшы сістэму пакаранняў у Вялікім Княстве занадта жорсткай. Наадварот: у параўнанні з іншымі еўрапейскімі краінамі яна была больш гуманная. Ад крымінальнай адказнасці, да прыкладу, вызваляліся дзеці і падлеткі да васемнаццаці гадоў, асобы з псіхічнымі захворваннямі, а часам і тыя, што ўчынілі злачынства «по глупстве».

Уражвае тое, што Статут 1588 года быў ці не першым у Еўропе (а магчыма, і ў свеце) прававым кодэксам, які паслядоўна і рашуча абараняў прыроду. Калі б, жывучы ў Вялікім Княстве, вы рызыкнулі разбурыць лебядзінае ці сакалінае гняздо, вас чакаў бы штраф ад трох да шасці коп грошай, калі б застрэлілі ці злавілі бабра — ад дзвюх да чатырох. Каб уявіць памер пакарання, параўнайце: добры жарабец альбо рабочы вол тады каштавалі дзве капы.

Статут 1588 года і надалей замацоўваў нашую мову ў якасці дзяржаўнай. На ёй працавала канцылярыя вялікага князя, на ёй манарх і ўсе галоўныя асобы Княства звярталіся — пісьмова ці вусна — да насельніцтва краіны.

З'яўляючыся выдатным творам прававой культуры, Статут 1588 года вельмі істотна ўплываў на заканадаўствы Польшчы, Украіны, Латвіі, Эстоніі, Расіі. Масква падрыхтавала першы ўласны звод законаў — «Уложение царя Алексея Михайловича» — толькі ў 1649 годзе, прычым (гэта неаднаразова адзначалі расійскія даследчыкі) значная частка ягоных раздзелаў і параграфаў была перакладзеная са Статута ВКЛ і цалкам спісаная, а частка — «творча» дапасаваная да патрэбаў маскоўскага самаўладдзя. Заўважым, што нават словы, якімі пачынаецца амаль кожны параграф «Уложения»: «А будет кто» — гэта не што іншае, як пераклад звычайнай формулы нашага зводу: «Гды-бы хто».

Праз два з лішнім стагоддзі пасля зацверджання кодэкс старабеларускіх законаў працягвалі лічыць бліскучым еўрапейскім зводам юрыдычных актаў. У 1791 годзе на паседжанні сойма Рэчы Паспалітай адзін з яго дэпутатаў казаў у сваёй прамове, што «Статут робіць гонар чалавечаму розуму. Ён складзены так разумна, асабліва ў дачыненні да відаў пакарання, што яго можна назваць найбольш дасканалай кнігай законаў ва ўсёй Еўропе».

Застаецца дадаць, што на нашых землях Статут 1588 года дзейнічаў нават пасля захопу Беларусі Расійскай імперыяй: у Магілёўскай і Віцебскай губернях — да 1831 года, а ў Гарадзенскай, Менскай і Віленскай — да 1840 года.

У 1994 г. была зацверджаная першая Канстытуцыя незалежнай Беларусі. Астатняе добра вядома...

# Даты і лёсы

## *30 красавіка*

У Германіі адзначаюць Вальпургіеву ноч — штогадовы шабаш ведзьмаў у гарах Гарца. У Беларусі адпаведныя «танцпляцоўкі», як вядома, называюць Лысымі гарамі. Ведзьмы раз на год ператвараюцца ў прыгожых дзяўчат і скачуць усю ноч вакол вогнішча ці нават у самім полымі, якое іх не пячэ.

**311.** Рымскі імператар Максіміліян ураўняў хрысціянаў у правах з язычнікамі.

**1883.** Нарадзіўся аўтар «Прыгодаў бравага салдата Швейка» чэшскі пісьменнік Яраслаў Гашэк. Найбольш каштоўнае ў знакамітым рамане канечне — пародыя на ідыятызм армейскага жыцця, дзе б і якое яно ні было.

**1893.** Нарадзіўся гандляр вінам, а потым — міністр замежных справаў гітлераўскай Германіі Ёахім фон Рыбентроп, адзін з аўтараў «пакта Молатава — Рыбентропа», які дазволіў далучыць Заходнюю Беларусь да СССР.

**1945.** У падземным бункеры ў Берліне Гітлер атруціў сваю жонку Еву Браун і застрэліўся сам.

**1972.** На плошчы Я.Коласа ў Мінску пачала выходзіць светлавая газета «Новости»: тэкст ствараўся з мігацення рознакаляровых лямпачак.

## *1 траўня*

Міжнародны дзень салідарнасці працоўных: у гэты дзень у 1886 г. амерыканскі ўрад пагадзіўся на скарачэнне працоўнага дня да 8 гадзінаў. У **1895** г. гэтае свята ўпершыню адзначылі рабочыя Мінска, Гомеля, Гродна, Смаргоні. У **1900** г. мінскія рабочыя ўпершыню выйшлі на першамайскую дэманстрацыю: каля 200 чалавек прайшлі па вуліцах пад лозунгамі «Далоў дэспатызм!» і «Няхай жыве палітычная свабода!» Шэсце разагнала паліцыя.

**1945.** Міністр прапаганды нацысцкай Германіі Ёзэф Гебельс забіў жонку, шасцёра сваіх дзяцей і, нарэшце, самога сябе.

**1952.** Падчас ваеннага парада ў Маскве з прычыны кепскага надвор'я разбіліся некалькі самалётаў. Сталін зняў свайго сына Васіля з пасады камандуючага авіяцыяй Маскоўскай акругі.

**1978.** На базе педінстытута быў створаны Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы.

## *2 траўня*

**1921**. Беларускія партызаны на чале з Георгіем Монічам спынілі ў Крупскім раёне «цягнік рабочай салідарнасці», які ехаў з Парыжа ў Манчжурыю. Усім камуністам сцягнулі на паляне парткі і далі па 50 шомпалаў, астатніх пасажыраў прымусілі назіраць за экзекуцыяй і шчодра заплаціць за «спектакль».

**1982.** Брытанская субмарына патапіла аргенцінскі крэйсер *General Belgrano*. Увесь экіпаж (362 чалавекі) загінуў.

**1990.** У лонданскім Сіці быў абрабаваны кур'ер валютнай біржы. Рабаўнік захапіў казначэйскіх вэксаляў і дэпазітных сертыфікатаў ажно на 292 млн. фунтаў стэрлінгаў (каля 450 млн. доляраў).

## *3 траўня*

**1791.** Сойм Рэчы Паспалітай прыняў канстытуцыю дзяржавы (дзейнічала толькі паўтара года). Канстытуцыя скасавала унію Польшчы з ВКЛ, стварыўшы тым самым унітарную дзяржаву — канстытуцыйную манархію.

**1810.** Лорд Байран за 1 гадзіну 10 хв. упершыню сам пераплыў з Еўропы ў Азію праз пратоку Дарданелы.

**1818.** Цар Аляксандр забараніў выкананне апошняй волі Тадэвуша Касцюшкі — не дазволіў вызваліць ад прыгону ягоных сялянаў.

## *4 траўня*

**1970.** Падчас разгону нацыянальнай гвардыяй ЗША антываеннай дэманстрацыі ў Кенцкім універсітэце (штат Агаё) чацвёра студэнтаў (у тым ліку дзве дзяўчыны) былі забітыя, а яшчэ 11 — параненыя. Студэнты пратэставалі супраць рашэння прэзідэнта Ніксана ўвесці войскі ў Камбоджу.

**1973.** У Чыкага адчыніўся найвышэйшы ў свеце хмарачос «Сірз» вышынёй 443 м (а з улікам дзвюх тэлеантэн — 520 м). У будынку 103 ліфты і 16.000 вокнаў.

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

*КАДРЫ*

# Даўнія строі – новыя звычкі



*АФІША*

На пачатку траўня ў канцэртных залах Мінска на ўсе галасы будзе гучаць беларуская народная музыка.

1 траўня ў Канцэртнай зале філармоніі выступіць вядомы фальклорны ансамбль «Свята». У праграме — песні, танцы, жарты беларускага Палесся.

А праз некалькі дзён, 5 траўня, у Мінску адбудзецца яшчэ адзін цікавы канцэрт народнай музыкі — справаздача творчых калектываў Беларускага універсітэта культуры. У гэтай навучальнай установе ёсць шмат цікавых ансамбляў — «Валачобнікі», «Грамніцы», «Талака». Разам з імі на сцэну Канцэртнай залы падчас справаздачнага канцэрта выйдуць Аб'яднаны народны хор і Ансамбль цымбалістаў.

**КАНЦЭРТЫ**

У Зале камернай музыкі 4 траўня адбудзецца канцэрт цымбалістак Таццяны Шумаковай і Наталлі Кавалінскай-Аруцюнавай. У праграме — камерная музыка класікаў — ад Вівальдзі да Бернстайна, а таксама сучасных кампазітараў.

5 траўня ў Зале камернай музыкі прагучаць фартэпіянныя імправізацыі на тэмы класічнай, джазавай, авангарднай і народнай музыкі. Выканаўца — піяніст Генадзь Кагановіч.

Юбілейны вечар Ірыны Палянскай адбудзецца 5 траўня ў Канцэртнай зале «Мінск». У праграме возьмуць удзел вядомыя эстрадныя артысты — Алена Свірыдава, Надзея Мікуліч, Сяргей Рагожын і многія іншыя.

**ТЭАТРЫ**

На Вялікай сцэне Тэатра імя Янкі Купалы 2 траўня можна паглядзець «Умовы дыктуе жанчына», а 3 траўня пройдзе «Інтымны тэатр Міровіча». На Малой купалаўскай сцэне 2 траўня — «Смех лангусты», 4-га — «Парфён і Аляксандра», 6-га — «Крывавая Мэры».

Тэатр оперы і балета запрашае 2 траўня на вечар раманса, 3 траўня пройдзе опера «Князь Ігар», а 6-га — балет «Спячая прыгажуня».

У тэатры музычнай камедыі 2 траўня — мюзікл «Бяда ад пяшчотнага сэрца». 3 траўня тут пройдзе вечар аднаактовых балетаў, у праграме — «Шапэніяна», «Кармэн-сюіта», а таксама «Новыя амазонкі» — балетная імпрэза на музыку славутага «Балеро» Марыса Равэля. 6 траўня ў Тэатры музычнай камедыі пройдзе аперэта «Капялюш Напалеона».

**ДЗЕЦЯМ**

У Тэатры лялек 2 траўня пройдзе казка «Тры парсючкі», 3 траўня — вясёлая імпрэза паводле кніжкі Г.Остэра «Кацяня Гаў», а 6 траўня пакажуць «Чараўніка Ізумруднага горада».

У нядзелю, 3 траўня, для дзяцей пройдуць ранішнія спектаклі ва ўсіх «дарослых» тэатрах Мінска: Тэатр Янкі Купалы прапануе паглядзець мюзікл «Карлік Нос», у Тэатры оперы і балета пройдзе балет «Тры парсючкі», а Тэатр музычнай камедыі пакажа «Стойкага алавянага жаўнерыка».

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**

